
MICRO-SERIES
IDW
TEENAGE MUTANT NINJA
TURTLES
#5 • CVR A
BURNHAM
SMITH
HERRING
VILLAINS
KARAI
.BY
ЧАРАПАШКІ НІНЗЯ.
МІКРАСЕРЫЯ #13
ЗЛОДЗЕІ: КАРАІ
ПЕРАКЛАД І АФАРМЛЕННЕ:
COMICSBY

ТРЭНІРОВАЧНАЯ БАЗА ГЕНІНАЎ КЛАНА ФУТ. АКРУГА ЎЭСТЧЭСЦЕР. НЮ-ЁРК.

ПАЧНЕМ ЖА!

І ПАМЯТАЙЦЕ: ВЫ **АБАВЯЗАНЫ** РУХАЦЦА ЎСЕ ЯК АДЗІН. ГЭТА ДАВОЛІ **ЛЁГКА**, АЛЕ НАВУЧЫЦЬ ВАС ДАКЛАДНАСЦІ.

А **ДАКЛАДНАСЦЬ** – ГЭТА КАШТОЎНЫ **НАВЫК**.

<ПАПРАШУ НЕ АДЦЯГВАЦЬ УВАГУ МАІХ ВУЧНЯЎ.>

<ГЭТА БЫЛО ЗРОБЛЕНА НЕ ВЫПАДКОВА. ЦЯПЕР Я ВЕДАЮ, ХТО ЗДОЛЬНЫ СУПРАЦЬСТАЯЦЬ **НЕЧАКАНАСЦІ**.>

<НЯЎЖО? А Я ДУМАЎ, ТЫ ЗРАБІЛА ГЭТА ДЗЕЛЯ **ЗАБАВЫ**.>

<ПРЫЕМНА БАЧЫЦЬ ЦЯБЕ ЗНОЎ, СТАРАЦ.>

<ШТО Ж ПРЫВЯЛО ЦЯБЕ СЁННЯ Ў ШКОЛУ? ТАБЕ ЗНОЎ ПАТРЫБНЫ НОВЫЯ САЛДАТЫ? ГЭТЫЯ ЯШЧЭ НЕ ГАТОВЫЯ.>

<ГЭТА Я ЗАЎВАЖЫЛА. АЛЕ НЕ, ТАШЫРА-САН, ГЭТЫМ РАЗАМ Я ПРЫЙШЛА ЗА... **ПАРАДАЙ**.>


**ВУЧНІ!** ПЕРАПЫНАК СКОНЧАНЫ.
<ПОЙДЗЕМ СА МНОЙ.>


<ЗВЫЧАЙНА ТЫ АРЫЕНТУЕШСЯ ТОЛЬКІ НА **СВАЕ** ПАРАДЫ.>
<ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ ІНШАГА ЧАЛАВЕКА МОЖА ДАПАМАГЦІ ВЫЙСЦІ НА ПРАВІЛЬНЫ ШЛЯХ, А Ў ДАДЗЕНЫ МОМАНТ Я НЕ ЎПЭЎНЕНА Ў ТЫМ, ЯКІМ ЁН ПАВІНЕН БЫЦЬ.>
<МАЁ СТАНОВІШЧА Ў КЛАНЕ ФУТ... **ЗМЯНІЛАСЯ**, І Я ПАВІННА ЗРАЗУМЕЦЬ, ШТО МНЕ РАБІЦЬ ДАЛЕЙ.>
<КАЛІ ТЫ НЕ МОЖАШ ЗГАДЗІЦЦА З НОВАЙ РОЛЯЙ, ТАДЫ ЦІ ЗМАГАЙСЯ З МАЙСТРАМ ЗА МЕСЦА ЛІДАРА, ЦІ ЗНІКНІ.>


<МНЕ... **НЕ** АДОЛІЦЬ СВАЁГА ДЗЕДА... **ПАКУЛЬ** ШТО. УЙСЦІ Я ТАКСАМА НЕ МАГУ. БЕЗ КЛАНА ФУТ Я – **НІШТО**.>
<ГЭТА НЕ МОЖА БЫЦЬ ПРАЎДАЙ. ЯКОЙ ТЫ АДЧУВАЛА СЯБЕ РАНЕЙ?>
<...**БОЛЬШ НЯСПЕЛАЙ.**>


<У ДЗЯЦІНСТВЕ, БАЦЬКА РАСКАЗВАЎ МНЕ ГІСТОРЫІ ПРА ЛЕГЕНДАРНУЮ КУНАІЧЫ ФУТ. ЁН ЗАГАДАЎ МНЕ ЗАПОМНІЦЬ, ШТО МЫ ВЫЙШЛІ З МАГУТНАГА КЛАНА НІНЗЯ, І ШТО Я ПАВІННА **ПЕРАХАПІЦЬ** І ЎВАБРАЦЬ СІЛУ ЯГО.>
<С ЦЯГАМ МАЙГО СТАЛЕННЯ, СТАНАВІЛАСЯ ЗРАЗУМЕЛА, ШТО **ЁН** НЕ ЖЫЎ ПАВОДЛЕ СВАЙГО ЗАГАДА. БАЦЬКА НЕ ЎЦЯМІЎ УРОК МІНУЛАГА. ЯГО **СУЧАСНАЯ** ВЕРСІЯ КЛАНА БЫЛА ЗБОРЫШЧАМ **БУХГАЛТЭРОЎ І ЮРЫСТАЎ**.>
<ЯНЫ ТАКІЯ Ж ІЛЖЫВЫЯ І ВЫВАРОТЛІВЫЯ, ЯК ЛЮБЫ НІНЗЯ, АЛЕ ІХ ЗБРОЯ БЫЛА ЗНАЧНА МЕНЬШ ЭФЕКТЫЎНАЙ...>


<І ЧАМУ Ж МЯНЕ ЗАГАДЗЯ НЕ ПАПЯРЭДЗІЛІ АБ ГЭТЫМ, НАКАМУРА? Я НЕ БУДУ ВЕСЦІ СПРАВЫ З РУСКІМІ.>
<ТРЭБА БЫЛО ЧЫТАЦЬ АПОШНІЯ ПУНКТЫ ПАГАДНЕННЯ ТРОХІ **ПІЛЬНЕЙ**, АРОКУ ЁРЫ. ВОСЬ ТАКАЯ АПЛАТА ЗА НАБЫЦЦЁ.>


<УСЁ, ЧАГО ЯНЫ ХОЧУЦЬ - МЕСЦА ЗА СТАЛОМ. ПРАВА ГОЛАСА. ВЫ ЗАСТАЕЦЕСЯ ГАЛОЎНЫМ, І МЫ БЯРОМ КУШ.>
<КОЛЬКІ ДАКЛАДНА?>
<БОЛЬШ, ЧЫМ НАМ ТРЭБА, КАБ ВЫРАШЫЦЬ НАШЫЯ ЦЯЖКАСЦІ. КЛАН ФУТ НАРЭШЦЕ БУДЗЕ ЧАГОСЬЦІ КАШТАВАЦЬ. СТАНЕ СУСВЕТНАЯ ВЕЛІЧЫНЁЙ.>


«ТОЙ ФАКТ, ШТО ПОЗІРКІ БАЦЬКІ ЛЁГКА МЯНЯЛІСЯ ЗА АБЯЦАННЕ ГРОШАЙ, ШТО ДАЗВАЛЯЛА СЛУЖЦЫ ТАК ЗНЕВАЖАЛЬНА РАЗМАЎЛЯЦЬ З ІМ...»
«...РАСЧАРОЎВАЎ І РАЗЫХОДЗІЎСЯ З ТЫМ, ДА ЧАГО ЁН ПРЫВУЧВАЎ МЯНЕ».


<КАРАІ?>
<ТЫ ШТО ГЭТА РОБІШ? Я СКАЗАЛА ТАБЕ НЕ ПАДСЛУХВАЦЬ! ЧАМУ ТЫ ЗАЎСЁДЫ ПРЫМУШАЕШ МЯНЕ **ЧЫРВАНЕЦЬ** ЗА ЦЯБЕ?>
<ПРАБАЧ, МАМА. Я ТУТ НЕДОЎГА... ШУКАЛА САВЮ КНІЖКУ, А ТАТА БЫЎ ЗАНЯТЫ, ТАМУ Я ЧАКАЛА...>


<ПАТРЭБНА КНІГА - ІДЗІ Ў НАШУ **БІБЛІЯТЭКУ**. ДЛЯ ГЭТАГА ЯНА І **ІСНУЕ**.>
SWAK

«Я **НЕНАВІДЗЕЛА**, КАЛІ МАЦІ РАБІЛА З МЯНЕ ДУРУ... АЛЕ З ІНШАГА БОКУ ЯНА НЕ НАКІРАВАЛА МЯНЕ ДА СЯБЕ».

«Я АТРЫМЛІВАЛА АСАЛОДУ АД ТЫХ РЭДКІХ МОМАНТАЎ, КАЛІ МНЕ ДАЗВАЛЯЛІ ПАТРАПІЦЬ У БІБЛІЯТЭКУ. У ЁЙ БЫЛО ПРОЦЬМА ЎСЯГО, І КАЛІ ШАНЦАВАЛА, Я МАГЛА ПАТРАПІЦЬ НА НЕШТА **НЕЗВЫЧАЙНАЕ**...»

«...НАПРЫКЛАД, НА **АШЫ НО ХІМІЦУ**».

«ЗВЫЧАЙНА, БАЦЬКА ТРЫМАЎ ЯЕ ЎНІЗЕ, КАБ ВЫХВАЛЯЦЦА ПЕРАД ГАСЦЯМІ. АЛЕ МНЕ НЕ ДАЗВАЛЯЛІ Ў ЯЕ ГЛЯДЗЕЦЬ».

«І ВОСЬ ЯНА ЛЯЖАЛА НА САМЫМ БАЧНЫМ МЕСЦЫ, З'ЯЎЛЯЮЧЫСЯ ДОКАЗАМ ЗНЕВАЖЭННЯ БАЦЬКІ ДА МІНУЛАГА».

«КНІГА АКАЗАЛАСЯ ВЕЛЬМІ ЦІКАВАЙ. ЯНА ЗАХОЎВАЛА ЎСЮ ГІСТОРЫЮ КЛАНА ФУТ – МАЁЙ СЯМ'І. І, ШТО ЯШЧЭ ЛЕПШ...»

«...ЗМЯШЧАЛА ПАДРАБЯЗНЫЯ ІНСТРУКЦЫІ ПА НАШЫМ ПРАКТЫКАМ».


«ТАК УСЁ І ПАЧАЛОСЯ. ДНЁМ Я ГРАЛА РОЛЮ ДОБРАЙ ДАЧКІ, АБ ЯКОЙ ЗАЎСЁДЫ МАРЫЛА МАЯ МАЦІ».


«А НОЧЧУ ВЫВУЧАЛА АШЫ НО ХІМІЦУ Ў НАДЗЕІ СТАЦЬ ТЫМ, КІМ НЕ ЗМОГ СТАЦЬ БАЦЬКА».
THWOK


«Я ЖЫЛА ТАК ГАДАМІ».


KRAK!
«СМАКУЮЧЫ СВАЕ ВЫМАГАННІ ЎЗРАСТАЮЧАЙ СІЛАЙ».


«ТОЛЬКІ Ў ТАКІЯ ГАДЗІНЫ Я БЫЛА САПРАЎДЫ ЖЫВОЙ...»


«...АЛЕ ГЭТА СТАМЛЯЛА».

«ШАНСА АДПАЧНУЦЬ НЕ ВЫПАДАЛА НАВАТ У СНЕ».

<ТЫ Ў ЦУДОЎНАЙ ФОРМЕ ДЛЯ ТАГО, ХТО НЕ АТРЫМАЎ НЕАБХОДНЫХ ТРЭНІРОВАК...>

<...УСЁ Ж ТАКІ, МАГЧЫМА, У ТАБЕ ЦЯЧЭ МАЯ КРОЎ.>

<ХТО...>

<Я – АРОКУ САКІ, ДЗІЦЯ МАЁ.>

<А ТЫ МОЖАШ ЗВАЦЬ МЯНЕ **ДЗЕДАМ**.>

<ТЫ НЕ БАІШСЯ МЯНЕ.>
<Я ЧЫТАЛА ПАДАННЕ АБ АРОКУ САКІ. ЁН ПОМЕР СТАГОДДЗІ НАЗАД, А ЗНАЧЫЦЬ, ТЫ – УСЯГО ТОЛЬКІ МОЙ СОН.>
<НАВОШТА МНЕ БАЯЦЦА СНОЎ?>









<ГЭТА **НАШ** АБАВЯЗАК.>

<АЛЕ... ТЫ Ж **МЁРТВЫ.**>

<ГЭТА МОЖНА ВЫПРАВІЦЬ. **ТЫ** МАГЛА Б АЖЫВІЦЬ МЯНЕ, ТЫ І ТОЛЬКІ ТЫ. І ВОСЬ ТАДЫ, **РАЗАМ**, МЫ ВЕРНЕМ КЛАН ФУТ НА ЯГО **ЗАКОННАЕ МЕСЦА.**>

<Я НАВУЧУ ЦЯБЕ РОЗНАМУ, УНУЧКА. ТАМУ, ШТО ЗАСТАВАЛА-СЯ СТРАЧАНЫМ МНОГІЯ ГАДЫ. ТАМУ, ШТО ВАРТЫ ВЕДАЦЬ МОЙ **ПЕРАЕМНІК**...>

<УВАБРАЦЬ СІЛУ З МІНУЛАГА...>

<Я ЧЫТАЛА ПРА ПАТРЭБНЫ РЫТУАЛ У АШЫ НО ХІМІЦУ. Я **ЎВАСКРАШУ** ТЯБЕ, ДЗЕД. ЦІ, ХАЦЯ Б, ПАСПРАБУЮ...>

<АДНАК, **СПАЧАТ-КУ** Я **АБАВЯЗАНА** ВЫПРАВІЦЬ ПАМЫЛКУ БАЦЬКІ, І ЗАЙМУСЯ ГЭТЫМ АСАБІСТА.>

<Я ПРАЧАКАЎ НЕ АДНО СТАГОДДЗЕ – ЗДОЛЕЮ ПАЧАКАЦЬ І ЯШЧЭ ТРОХІ. АЛЕ БЯРУ З ЦЯБЕ СЛО-ВА. І ПРАСАЧУ, КАБ ТЫ СТРЫМАЛА ЯГО.>

<ЦЯПЕР ПРАЧНІСЯ.>

«<...ПРАЧНІСЯ, І ПАМЯТАЙ.>»

«<ПАМЯТАЙ СВАЕ АБЯЦАННІ, ДАДЗЕНЫЯ МНЕ І **САБЕ.**>»




НАСТУПНЫЯ ГАДЫ Я ПРАВЯЛА, НАБІРАЮЧЫ СВОЙ ПАТЭНЦЫЯЛ.


ЗНАХОДЗЯЧЫ ПАТРЭБНЫХ ЛЮДЗЕЙ...


ТРЭНІРУЮЧЫ ІХ, КАБ ПРЫНОСІЛІ КАРЫСЦЬ...




...І ВЫКАРЫСТОЎВАЮЧЫ Ў СВА-ЕЙ АПЕРАЦЫІ ПА ВЫДАЛЕННЮ ТОЙ РАКАВАЙ ПУХЛІНЫ, ШТО АВАЛОДАЛА ФУТАМІ.

...АЛЕ ГЭТА БЫЎ ТРЭЦІ ЗА ТЫДЗЕНЬ! БЕЗУМОЎНА, НЯМА ПАТРЭБЫ СКЛІКАЦЬ ЗБОР ТОЛЬКІ ДЛЯ ТАГО, КАБ ПАВЫСІЦЬ МЕРЫ БЯСПЕКІ. НА НАС **ПАЛЮЮЦЬ**...
...НЕ, НЕ ВЕДАЮ, **ХТО ДАКЛАДНА**. АЛЕ ЎСЁ АДНО ЛІЧУ, ШТО НАМ ТРЭБА... Я... ТАК, СЭР. ТАК, ПАПРАШУ МАЙСТРА АРОКУ АРГАНІЗАВАЦЬ СУСТРЭЧУ ДЛЯ АБМЕРКАВАННЯ НАШЫХ ВАРЫЯНТАЎ.
ДЗЯКУЮ.
НЕВЕРАГОДНА!
DEET DEET DEET







ФУХ! ФУХ!
SHUK SHUK SHUK
АААРХ!
ТЫ – ЧАСТКА АПЛАТЫ ЗА НАБЫЦЦЁ.


<ПАЗБАВІЎШЫСЯ НАКАМУРЫ, МОЙ БАЦЬКА ПАТАНУЎ У ТОЙ БАГНЕ, ЯКОЙ СТАЛІ ФУТ. У РЭШЦЕ РЭШТ ЁН ПОМЕР АД СТРЭСУ, ЧЫМ ДАЎ МНЕ МАГЧЫМАСЦЬ СВАБОДНА ЗАНЯЦЦА ЎЗНАЎЛЕННЕМ КЛАНА.>
<ТЫ НАНОВА АДБУДАВАЛА САМ КЛАН. А ПОТЫМ ВЯРНУЛА ДА ЖЫЦЦЯ ЯГО ДЖАНІНА. НЕВЕРАГОДНЫЯ ДАСЯГНЕННІ, ТЫМ БОЛЬШ ДЛЯ ГЭТКАЙ ЮНАЙ АСОБЫ.>
<У ГЭТЫМ І СКЛАДВАЕЦЦА МАЯ БЯДА, ТАШЫРА. ВОСЬ ЧАМУ Я ПРЫЙШЛА ЗА **ПАРАДАЙ**.>


<КЛАН СТАІЦЬ НА МЯЖЫ ЎЛАДЫ, ЯКАЯ НЕ МЕЛА ВЫПАДКУ Ў ЯГО ГІСТОРЫІ, АЛЕ ДЖАНІН, ЯКІ БЫЎ МНОЮ ЎВАСКРЭСНУТЫ, АБРАЎ САБЕ ІНШАГА ПЕРАЕМНІКА.>
<КАЛІ Я НЕ МАГУ ПРАДСТАВІЦЬ НІЧОГА, АКРАМЯ БЫЛЫХ ЗАСЛУГ, ТАДЫ ХТО Я?>
ЗНАЧЫЦЬ, ТЫ СЯДЗЕЛА ТУТ І СКАРДЗІЛАСЯ СТАРЫКУ. УСЁ ЛАГІЧНА.


ШТО?!
ВОСЬ МЕНАВІТА ТАМУ ТЫ БОЛЬШ І НЕ **ЧУНІН**, КАРАІ.
ТАБЕ НЕ ХАПАЕ СІЛАЎ СПРАВІЦЦА З УСІМ САМОЙ.


**ТЫ.**
ЧАМУ ТЫ ТУТ?







ХОЧАШ СКАЗАЦЬ, ШТО Ў ІХ ІНШАЕ ПРЫЗНАЧЭННЕ?
НЕ, Я...
ДЫ МНЕ ДА СРАЦЫ.

МНЕ НЕ ВАЖНА, ШТО ТЫ ДУМАЕШ. ТВАЯ АДЗІНАЯ КАШТОЎНАСЦЬ – НАКОЛЬКІ ХУТКА ТЫ **ВЫКОНВАЕШ МАЕ ЗАГАДЫ**.
БОЛЬШ ТЫ НІ НА ШТО **НЕ ПРЫДАТНА**.

Я **ЛЮТА** НЕНАВІДЖУ ГЭТА СТВАРЭННЕ.
УСЕ МАЕ НАМАГАННІ ВЯРНУЦЬ КЛАНУ РАНЕЙШУЮ ВЕЛІЧ МАГЛІ БЫЦЬ ПАРУШАНЫЯ ІМ У **АДЗІН МОМАНТ**.
АЛЕ Я НЕ МАГУ ЯМУ ПЕРАШКОДЗІЦЬ І ПРЫ ГЭТЫМ НЕ ПАЙСЦІ СУПРАЦЬ МАЙСТРА.
У ЦЯБЕ ТАКІ ВЫГЛЯД, БЫЦЦАМ ЁСЦЬ, ШТО СКАЗАЦЬ.
МОЖА ТЫ НЕ ЗГОДНА? НЕ ЛІЧЫШ СЯБЕ НЕПРЫДАТНАЙ?
БЕДНАЯ МАЛЯНЯ КАРАІ. **НЕ СУМНЯВАЙСЯ** Ў ГЭТЫМ. Я ЧУЎ, ШТО ТЫ СПРАБУЕШ НАТХНІЦЬ ГЕНІНАЎ ПЕРАД БІТВАЙ, РОБІШ ПРАМОВЫ ПРА ГОНАР КЛАНА І ПЕРАЙМАННЕ **СІЛАЎ З МІНУЛАГА**.
МІНУЛАЕ – МЕСЦА, ДЗЕ ЖЫВЕ **СМЕРЦЬ**. А ЛІДАРЫ ПАВІННЫ ГЛЯДЗЕЦЬ **У БУДУЧЫНЮ**.
ХМ. ЗАКРАНУЎ Я ЦЯБЕ ЗА БАЛЮЧАЕ, ГА? ПАБЯЖЫШ ХНАКАЦЬ МАЙСТРУ ПРА ТОЕ, ЯК ЯГО ЧУНІН ПАКРЫЎДЗІЎ ЦЯБЕ?
ВОСЬ, ШТО Я СКАЖУ... З ЗАДАВАЛЬНЕННЕМ РАССТАЎЛЮ КРОПКІ НАД «І»: КАЛІ ДУМАЕШ, ШТО БОЛЬШ ПАДЫХОДЗІШ НА РОЛЮ ЛІДАРА, ЧЫМ Я, ДАКАЖЫ.
АТАКУЙ МЯНЕ.
НУ? ЧАГО ТЫ...
...НГХ!
THWACK


ХАРР!

ВІДАЦЬ, ШТО НЕЗДАРМА Я ПРЫЕХАЎ СЮДЫ.

**НАРЭШЦЕ** Я ПАСТАЎЛЮ ЦЯБЕ НА МЕСЦА.

КІІІЙЯЯ!

Я РАЗУМЕЮ, ШТО НЕ ПАВІННА БЫЛА НАПАДАЦЬ, АЛЕ ЗАТОЕ МЯНЕ НЕМАГЧЫМА АБВІНАВАЦІЦЬ У **НЕПАДПАРАДКАВАННІ.**

CHNK






МЫ ЗМАГАЛІСЯ І РАНЕЙ, ШМАТ РАЗОЎ. АЛЕ ГЭТЫМ РАЗАМ **УСЁ ІНАЧ**.

ЁН РУХАЕЦЦА БОЛЬШ ПАВОЛЬНА.

KRAK

Я МАГЛА Б ПРЫКОН-ЧЫЦЬ ЯГО АДНОЙЧЫ І НАЗАЎЖДЫ.


КІЙЯ!
KRKK
УНХ!

МММMГХХХ...
БО ГЭТА Ж ЧАРАПАХА СПРАВАКАВАЛА БОЙКУ.

АЛЕ...

ШТО...

ХХХАА!

Я ЗДАЮСЯ... **ЧУНІН**.
**Я ЖА СКАЗАЎ**, ШТО ТЫ – НІШТО.
СПАДЗЯЮСЯ, Я НАГАДАЎ, ДЗЕ ТВАЁ МЕСЦА.


Я ДОБРА ВЕДАЮ, ЧАГО ЗАСЛУГОЎВАЮ.


ШТО ТЫЧЫЦЦА ЦЯБЕ, СТАРЫКАН, КАЛІ ЯКАСЦЬ НАВУЧАННЯ НЕ ПАЛЕПШЫЦЦА, МАЁ ЧАРГОВАЕ НАВЕДВАННЕ НЕ БУДЗЕ ТАКІМ ЖА ПРЫЕМНЫМ.
СЛУХАЮСЬ, ЧУНІН.
ПХ. Я БУДУ САЧЫЦЬ.


<АДКАЖЫ, ЧАМУ ТЫ НЕ ЗАБІЛА ЯГО?>
<БО ЁН АДОЛЕЎ МЯНЕ.>
<ХОЦЬ Я І **СТАРЫ**, АЛЕ НЕ **СЛЯПЫ**.>


<ХМ. Я НЕ ЗАБІЛА ЯГО, БО ВЕДАЮ, ЯК РАЗВАЖАЕ МОЙ ДЗЕД. КАЛІ Я ЗАБ'Ю ЯГО ЧУНІНА, ЁН, У СВАЮ ЧАРГУ, ПАКАРАЕ МЯНЕ ЗА ЗНЕВАЖЭННЕ ЯГО ПАХАДАННЯЎ.>
<ТАМУ **СПАЧАТКУ** ТРЭБА ЗМЯНІЦЬ ЯГО МЫСЛЕННЕ.>


<АЛЕ МОЖАЦЕ НЕ СУМНЯВАЦЦА, Я АТРЫМАЛА ПЕРАМОГУ.>
<Я **АДЧУВАЛА** ЯГО НЕРАШУЧАСЦЬ, ПАКУЛЬ КЛІНОК БЫЎ У МАЙГО ГОРЛА. ЯМУ НЕ ХАПАЛА ДУХУ ЗАБІЦЬ МЯНЕ.>
<А ШТО, КАЛІ ХАПІЛА Б?>
<ТАДЫ Б МЫ АБОДВА СУСТРЭЛІ СВОЙ ЛЁС.>


<ЁН **СЛАБЫ**, ТАШЫРА. ГЭТА ЗВЕР, ЯКІ ЛІЧЫЦЬ СЯБЕ ЧАЛАВЕКАМ. І ЦЯПЕР ЁН НЕ ЛІЧЫЦЬ МЯНЕ ПАГРОЗАЙ... І АДНОЙЧЫ Я **АДПОМШЧУ ЯМУ**.>
<І ТАДЫ ЧАПАРАХА ЗРАЗУМЕЕ, ШТО ТРЭБА БЫЛО ЗАБІЦЬ МЯНЕ, КАЛІ Я ДАВАЛА ШАНС. ЁН УБАЧЫЦЬ, ШТО МАЕ ЎМЕННІ БОЛЬШ ДАСКАНАЛЬНЫЯ. ЯГО ДУХ БУДЗЕ СЛАМАНЫ І Я ДАБ'Ю ЯГО.>
РОК


<АДНАК, У АДНЫМ ЁН МАЕ РАЦЫЮ.>
<У ЧЫМ?>
<ЛІДАР ПАВІННА КЛАПАЦІЦЦА ЗА БУДУЧЫНЮ.>
<ЗНАЧЫЦЬ, ТЫ ВЫРАШЫЛА НАКОНТ СВАЙГО ПУЦІ?>









МЫ АБМЕЖАВАНЫ ТОЛЬКІ ЎЗРОЎНЕМ СІЛЫ, ЯКОЙ ВАЛОДАЕМ.

ВЫ ГЭТА ВЕДАЕЦЕ, ТАМУ І АДКЛІКНУЛІСЯ. ВЫ ЎСЕ ЖАДАЕЦЕ ЎЛАДЫ, КАБ ЗМЯНІЦЬ БУДУЧЫНЮ, І ТОЛЬКІ Я МАГУ ДАЦЬ ЯЕ ВАМ.






САМЫ ПРОСТЫ З УСІХ.

KRAK

БОЙКА НА ВЫЖЫВАННЕ.

